**Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ**

# Роздум пра жыццё

Вядома ўсім, што чалавек –
Прыроды лепшае стварэнне.
І немалы, між іншым, век
Яму прыпаў ад нараджэння.

Але падрос ты на вяршок
І адышоўся сам ад лаўкі –
Жыццё бярэцца, бы знарок,
Рабіць у тэрмінах папраўкі.

Сакрэт навукі не спасціг,
За двойкі дзягаю лупілі.
Вось так бацькі на нейкі міг
Ужо твой век падкарацілі.

Жыццё – маліна? Гэта блеф!
У офісе не толькі гейшы.
За штосьці раскрычыцца шэф,
І шлях твой стане карацейшы.

У адпачынак не пусціў
Улетку той жа шэф «чуллівы» –
Лічы, што зноўку адхапіў
Нямала дзён тваіх шчаслівых.

З сям'ёй – спачатку без прыгод.
Ды дойдзе справа да скандалаў –
І пару месяцаў ці год
Карова языком злізала.

А колькі ў чэргах правялі
Мы лепшых дзён, і не лічыце!
У злосці да сяброў жылі,
Была любоў у дэфіцыце.

Ды не спяшайся наракаць:
Заўчасных каб не мець авацый,
Не варта самаму ствараць
Сабе канфліктных сітуацый!

**Пераклад з рускай мовы**
**Віктара ГАРДЗЕЯ.**



Віктар КОХАН.



Алег ПАПОЎ.



Аляксандр ШМІДТ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Ганна СІНІЦА.




Высмоктваюць з пальца факты там, дзе не могуць узяць голымі рукамі.

Аптыміст сушыць зубы на сонцы, а песіміст кладзе іх на паліцу.

Калі трэба ўзяць быка за рогі, не варта цянуць ката за хвост.

І сіноптыкі кідаюць словы на вецер.

Адзін ад чытання кніг набіраецца розуму, іншы атрымоўвае блізарукасць.

У жыцці сустракаюцца людзі высокага палёту, ды няўдалай пасадкі.

І вернікі часам бязбожна хлусяць.

Адныя актыўна ламаюць камедыю, іншыя пасіўна назіраюць за меладрамай.

Афтальмолагу працней за ўсё заўважыць парушынку ў чужым воку.

**Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

## З-за зайздрасці

*Быль*



Ішоў Пятрок дахаты, нязграбна дастаў грошы з кішэні, а тыя ўзялі ды разляцеліся. Трапілі ў самую лужыну. Дома павесіў на вяроўчыну, каб высахлі. Суседка ўбачыла ды пытае праз плот:

– Што сушыш?

Мужчына жартам адказвае:

– Надрукаваў трошкі грошай, цяпер вось сушу.

Тую нібы вецер знёс.

Праз нейкую гадзіну прыязджаюць на машыне двое супрацоўнікаў міліцыі. Маўляў, паказвай апарат, на якім грошы друкуеш. Мужчына адразу ж скеміў. Паведаміў, што пазычыў станок у суседкі.

Як на ліха, тая якраз у гэты дзень самагонку гнала... Гарэлку вылілі, апарат канфіскавалі, штраф выпісалі.

А колькі старая пацягалася па судах!

І ўсё з-за зайздрасці.

**Даслала Ірына КАРАЧУН,**
*г. Баранавічы.*




# Каханне ці любоў

*Міні-фельетон*

Іван Музыка вучыў людзей іграць на саксафоне. Яшчэ з дзяцінства ён марыў, што будзе дарыць слухачам прыгожыя мелодыі, выкладаць нотную грамату. І верыў: аднойчы ў яго з'явіцца вучань, які зможа раздзяліць любоў да гэтага музычнага інструмента. Так і здарылася.

Музыка не мог нарадавацца 40-гадоваму мужчыне, які вось ужо два тыдні наведваў ягоныя заняткі па саксафоне. Той з захапленнем слухаў настаўніка, старанна выконваў усе заданні. Іван ад гэтага быў у бадзёрым настроі і імкнуўся як мага больш расказаць свайму вучню.

На чарговыя заняткі мужчына прыйшоў нейкі ўзбуджаны і нервовы, спрабаваў штосьці спытаць, але на палове сказа спыняўся і пераводзіў тэму. Нарэшце Іван не вытрымаў:

– Вы ўсім выглядам мне дэманструеце, што ў вас нешта здарылася. Раскажыце, можа, я змагу вам чымсьці дапамагчы?

Вучань здзівіўся, а потым няўпэўнена, але разам з тым расчулена прамовіў:

– Я вырашыў прапанаваць руку і сэрца сваёй дзяўчыне. Толькі хачу гэта зрабіць рамантычна, каб мы запомнілі гэты момант на ўсё жыццё. Яна для мяне – сапраўднае каханне!

Музыка заўсміхаўся:

– Што ж, віншую вас! Справа добрая, да яе трэба падысці з усёй адказнасцю.

Мужчына заківаў галавой і працягнуў:

– Вось і я так лічу! Таму хацеў папрасіць: а ці не маглі б вы мне даць на пару дзён саксафон? Я ўпэўнены, што калі яна пачуе маю ігру, адразу скажа запаветнае «згодная».

Іван Музыка задумаўся. З аднаго боку, ён вельмі даражыў сваім інструментам і амаль нікому не даваў яго. А з другога, вучань так шчыра расказваў, што настаўнік не змог адмовіць.

– Вялікі дзякуй! Вы святы чалавек! – радаваўся мужчына. – Вы нават не ўяўляеце, як шмат гэта для мяне значыць. Праз некалькі дзён я вам яго прынясу, абяцаю. Шаную ваш уклад у каханне!

Вучань забраў інструмент і пайшоў. А Музыка быў вельмі шчаслівы, бо дапамог чалавеку.

Вось толькі праз пару дзён мужчына не прыйшоў. Іван пачаў хвалявацца: «Няўжо каханая адмовіла?» Пачакаў тыдзень, затым яшчэ адзін. Потым вырашыў пазваніць, але тэлефон аказаўся па-за зонай дзеяння сеткі. Звязаўся з роднымі, але тыя яму адказалі, што вучань паехаў на заробкі ў Расію. «Мабыць, грошы на вяселле збірае», – думаў Музыка.

Так прайшло паўгода. Нарэшце Іван не вытрымаў і звярнуўся ў міліцыю. А там супрацоўнікі хутка высветлілі, што яго вучань здаў саксафон у ламбард за 400 рублёў (хоць па-сапраўднаму інструмент каштуе разоў у сем больш, каля 1500 долараў). «Саксафаніста»-пачаткоўца затрымалі, і зараз яму пагражае зняволенне на тэрмін да чатырох гадоў.

Слухаў гэта Іван Музыка і ледзьве не плакаў. Расчараваўся ў людзях, а напрыканцы цяжка ўздыхнуў і сказаў:

– Не каханне то было, а любоў... звычайная любоў да грошай!..

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**


Алег ГУЦОЛ.


Аляксандр ПЯТРОЎ.

# Нечаканая клапатлівасць

*Фельетон*

У кватэры зазваніў тэлефон. Гаспадыня хутка падняла трубку, з якой пачуўся прыемны мужчынскі голас:

– Алё, добры дзень, я з міліцыі.

Марыну Парушаеву такія званкі ўжо даўно не здзіўлялі. Мясцовыя ўчастковыя змяняліся часта, а яе брат Алег – не. Ён быў чымсьці накшталт спадчыны. Такую багатую крымінальную біяграфію трэба было яшчэ пашукаць! Там узгадваліся бойкі ў стане алкагольнага ап'янення, розныя хуліганствы, крадзяжы. Спіс «подзвігаў» Алега можна было працягваць доўга.

Зрэдку Марына нават думала размяняць двухпакаёвую кватэру, якая дасталася ім ад бацькоў, на дзве аднапакаёвыя – сабе і брату. Але ведала, што той прап'е сваё жыллё і зноў прыйдзе да яе, бо разумее: яго пашкадуюць і не выганяць.

Думкі перарваў суразмоўца:

– Адбылося ДТЗ.

– З Алегам нешта здарылася? – у голасе Марыны пачулася занепакоенасць.

– Не, з ім усё добра. Вось паслухайце, – шум у тэлефоне быў падобны да моцнага ветру, але за акном Марыны ніводны лісток на дрэве не трымцеў.

Раптам пачуўся іншы голас:

– У мяне праблемы: я збіў чалавека...

– Як? Цябе ж вадзіцельскіх правоў пазбавілі! – здзівілася жанчына.

– Не жадаю вас засмучаць, але ён патрапіў у ДТЗ на чужым аўтамабілі, – трубку зноў узяў міліцыянер.

– На чужым? Хто ж майму брату сваю машыну дасць? Усе ведаюць, што ў яго няма правоў, ды і ўбачыць яго цвярозым складана, – расхвалявалася Марына.

– Я разумею, гэта ваш брат і вам цяжка паверыць у тое, што ён зрабіў... Але трымайцеся: ён угнаў аўтамабіль.

– Хутчэй менавіта ўкраў! Ведаеце, вы лепш з нашым участковым паразмаўляйце. Алег – не чатырнаццацігадовы падлетак-выкрадальнік.

– Не перажывайце, я дапамагу не толькі перакваліфікаваць яго ўчынак з крадзяжу на ўгон, але і, магчыма, пазбегнуць адказнасці. Аднак вы разумееце, што здарылася ДТЗ, якое выклікала смерць чалавека, і апраўдаць вашага брата будзе вельмі няпроста...

– Вы не ведаеце, каму збіраецеся дапамагаць. Праверце яго кроў на наяўнасць алкаголю.

– Я разумею, вы пралічваеце магчымыя пытанні да вашага брата з боку следчага. Але не хвалюйцеся: дзякуючы маім сувязям у лабараторыі...

– Ды якія сувязі! Хай сам адказвае за свае ўчынкі, не малы ўжо! Давайце я да нашага ўчастковага ў чарговы раз пад'еду і распавяду пра злачынствы брата, яго лад жыцця. А калі мяне хтосьці асудзіць за тое, што я расказваю пра сваяка такія рэчы, я прапаную гэтаму дабраку пажыць з Алегам некалькі гадоў. Давайце ж разам з вамі зробім добрую справу. Няхай без нашай дапамогі ён адкажа за свой учынак! Пачакайце, зараз знайду нумар участковага, каб дамовіцца аб сустрэчы, – але Марына не паспела знайсці нумар, бо трубку раптоўна кінулі.

Жанчына падумала, што міліцыянер вырашыў сам звярнуцца да ўчастковага, таму проста стала чакаць, калі ёй зноў патэлефануе хтосьці з праваахоўных органаў. Але нечакана праз паўгадзіны ў дзвярах кватэры з'явіўся Алег:

– Цябе ўжо так хутка выпусцілі?

Той толькі здзіўлена паціснуў плячыма і пайшоў у свой пакой. Што ўзяць з нецвярозага?

А пазней Марына ад суседкі даведалася ўсю праўду:

– Здаецца, у суседнім двары ў кватэрных злодзеяў сарваўся план. Сама чула, як адзін з іх, спалохана азіраючыся, казаў другому: «Мы павінны збегчы раней, чым яна патэлефануе ўчастковаму». Цікава, што там такое здарылася? Я і Алега твайго там бачыла.

– Не ведаю нават, – схлусіла Марына, толькі зараз зразумеўшы, што тэлефанавалі ёй не міліцыянеры, а Алег не проста сустрэў падазроных асоб. – Я ў ягоныя справы не сунуся.

Думка пра тое, каб размяняць двухпакаёвую кватэру на дзве аднапакаёвыя, цяпер падавалася Марыне не такой дрэннай.

**Алена КЕДА,**
*г. Мінск.*






Мужчынская вернасць: жанаты ўжо трэці раз, а палюбоўніца – адна і тая ж.

* * *

Парада гаспадыням: фільтр для вады праслужыць значна даўжэй, калі няма грошай на новы.

* * *

Калі ніхто не вяртаецца з будучыні, каб спыніць цябе, значыць, не такія ўжо дрэнныя рашэнні ты прымаеш!

* * *

Мяне грошы не хвалююць! Яны мяне супакойваюць.

* * *

Едзе мужчына на сустрэчу, спазняецца, нервуецца, не можа знайсці месца, дзе прыпаркавацца. Уздымае твар да неба і кажа:

– Божа, дапамажы мне знайсці месца для паркоўкі. Я тады і піць кіну, і курыць!

Раптоўна на стаянцы з'яўляецца вольнае месца. Аўтамабіліст зноў звяртаецца да неба:

– А, усё, не трэба, знайшоў!

* * *

– Сынок, ну калі ж ты, нарэшце, ажэнішся? У тваіх сяброў ужо даўно сям'я, дзеці...

– Мама, я ніяк не магу адшукаць сабе пару!

– Ты хоць адну знайдзі сабе, сынок...

**Сабраў Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

## Аб'ява

На прыступках магазіна
Дзве вясёлыя жанчыны
Штосьці ўважліва чытаюць,
Між сабою разважаюць:

– Вось аб'ява ад мужчыны:
Мужам стане на гадзіну
І пазбавіць ад турбот.
Далей – пералік работ.

– Ножкі ў шафе прымацуе,
Сцены ў кухні пафарбуе
Ды парамантуе кран –
Здольны муж, а не баран.

– Дываны павыбівае,
Толк у працы, пэўна ж, знае.
Зробіць ён усё старанна,
Без ныцця ды нараканняў.

– А чаму ж ён піша «муж»?
Значыць, і на тое... дуж!
Дзве жаночыя рукі
Адарвалі нумаркі.

**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*



Аляксандр ПЯТРОЎ.




Пётр КОЗІЧ.




## Лірык, што не цураўся гумару

*Народны паэт, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, ганаровы акадэмік Акадэміі навук Беларусі... Усе гэтыя званні і рэгаліі належаць выдатнаму пісьменніку Пімену ПАНЧАНКУ (1917–1995). Яго творчая асоба сфарміравалася ў юнацтве, а загартавалася падчас вайны. Вершы, напісаныя ім менавіта ў гады ліхалецця, прынеслі літаратару паэтычную сталасць. Пісьменніцкае майстэрства адточвалася на перадавой – Пімен Панчанка быў спецыяльным карэспандэнтам у армейскіх і франтавых газетах, працаваў у сатырычным часопісе «Партызанская дубінка».*

*Ужо адразу пасля вайны былы франтавік пачаў працаваць у «Вожыку». Сам пісаў шчымлівую лірыку ды шчыра падтрымліваў маладых гумарыстаў. Яго гумарыстычныя вершы сабраныя ў адзінай кнізе «Гарачы лівень» (1957), якая выйшла ў «Бібліятэцы «Вожыка».*

*Пісаў Пімен Емяльянавіч і эпіграмы на сваіх калег. Некаторыя з іх станучь вядомыя з дзённіка, які друкаваўся пасля смерці паэта ў часопісе «Полымя».*

*У юбілейны з дня нараджэння пісьменніка год прапануем вам пераканацца, што Пімен Панчанка – не толькі пранікнёны лірык, але і таленавіты гумарыст.*




*Шарж Міколы ПІРГЕЛЯ. 1987 г.*

**Пімен ПАНЧАНКА**

### Футбол

Мінчан гарачэйшая палавіна
Да раніцы сніла трывожныя сны:
Заўтра, заўтра адбыцца павінна
Гульня на кубак вясны.

Зялёнае поле, грымоты авацый,
Вясёлае лета спартыўных трывог!
І ўрач, што ўсім раіў не хвалявацца,
Ад хвалявання вялікага злёг.

І вось надышла баявая нядзеля,
З міліцыі курыцца пар, нібы дым.
І кожны хлапчук безбілетны з надзеяй
Глядзіць, хоча сынам зрабіцца тваім.

Трыбуны запоўнены атамным гулам.
Статыстык жахнуўся б – страшэнная рэч:
Сарвалася дваццаць тысяч прагулак
І дзесяць тысяч патрэбных сустрэч.

Люблю я ў футболе юнацкую сілу,
Дакладнасць udaраў, атак прыгажосць;
І нават злавесныя крыкі «На мыла!»,
І нават заядлых аматараў злосць.

Тут самы нясмелы і самы нядужы
Гукае: «Мазіла» і стогне: «Не так!»
Сябе ўяўляе ён дужым і мужным
Наперадзе смелых футбольных атак.

Скажу я сягоння насмешнікам посным:
Прыдзіце хоць раз паглядзець на футбол.
Змятуць вашы кпіны балельшчыкі грозна
Адзіным вулканавым выбухам: «Гол!»

Захоплены ўсе разгарачаным рытмам.
Суддзя беланогі у чорных трусах,
Хоць тоўсты, а бегае хутка і спрытна,
Не ў крыўду быць сказана, нібы рысак.

– Падножка! Падножка! – з нястрымным запалам
Вядомы крытык, як бык, зароў.
Ён знаўца падножак. Ён сам нямала
Падножак зрабіў для сваіх сяброў.

Глядзіць нейкі дзядзька (ён тут выпадкова)
На гэтую ярасць, і рогат, і грук, –
І хоча сказаць ён прачулае слова:
– А ў нас не хапае рабочых рук.

Апошнія хвілі цякуць так марудна...
Свісток. 2–1. Мінск ад шчасця размяк.
Салідны прафесар на вуліцы людной
Нагой падфутболіў якісьці камяк.

І толькі адны упраўдомы сумуюць,
І вокны ад страху дрыжаць да начы:
На кожным двары піянеры лупцуюць
Свае загартаваныя мячы.

*«Вожык», 1956 г.*




## Талент, непадуладны часу

*Здавалася б, у параўнанні з многімі іншымі літаратарамі Сяргей ДЗЯРГАЙ (1907–1980) яшчэ пры нараджэнні выцягнуў шчаслівы білет: пісьменнік з'явіўся на свет у Мінску, а ў сталіцы, як вядома, больш магчымасцей для творчага развіцця. Але хоць ён пачаў друкавацца яшчэ да вайны, лёс будучага паэта складваўся не так удала, як у іншых яго аднагодкаў. У юнацтве цяжка хварэў, а потым двойчы быў незаконна рэпрэсаваны. У гады вайны ўдзельнічаў у партызанскім руху.*

*Стала пачаў працаваць у літаратуры толькі пасля вайны, калі вярнуўся ў родны Мінск. Нягоды жыцця не зрабілі чэрствай душу паэта, не перашкодзілі яму глядзець на свет пазітыўна, з усмешкай. Сяргей Сцяпанавіч – аўтар многіх паэтычных зборнікаў. Доўгі час ён працаваў у «Вожыку», быў загадчыкам аддзела, адказным сакратаром рэдакцыі. Сваю схільнасць да гумару і сатыры сцвердзіў кнігамі «Цешча» (1959) і «Салата з дзядоўніку» (1967), што выйшлі ў серыі «Бібліятэка «Вожыка».*

*Перачытваючы гумарыстычную спадчыну Сяргея Дзяргая, дзівішся яе актуальнасці і сёння, пераконваешся ў тым, што талент пісьменніка не падуладны часу.*



*Шарж Аскольда ЧУРКІНА, 1977 г.*

**Сяргей ДЗЯРГАЙ**

### Плагіятар

Сказалі б вы яшчэ – злізаў!..
Ну, запазычыў, злямзіў, згроб!..
Але вы кажаце – украў!
І гэта... гэта ўжо – паклёп.
Вы абражаеце дарма...
Ёсць, праўда, грэх...
Грэх мі-ні-маль-ны!
Супроць яго й артыкула няма
У кодэксе, ну, як ён...
крымінальным.

Няма артыкула ды й годзе!
А плагіятар – той жа злодзей.

### Слон і муха

– Каб з мухі ды зрабіць слана? –
Слон абураецца. – Мана!
Тут муха: – Жу-жу-жу!
А я табе скажу,
Што праўду знойдзеш і ў мане.
Вось хобат... і ў цябе ёсць
і ў мяне.
Заўсёды ў свята б'юць у звон:
Ёсць хобат, значыць, будзе слон.

### Ах, каб быў я...

Ах, каб быў я ізноў маленькі!..
Маленькае хлапчо, хлапчанятка...
Зноў бы нос уціраў я жменькай
І ў школе прапускаў заняткі.
І жыў бы ў мяне апалонік
У слоіку шкляным з-пад мёду,
А ў другім – лупаценькі конік
Стракатаў бы сабе на пагоду.
Апалонік не рос бы ў жабку,
А конік зламаў бы ножку...
І тут бы я клікнуў бабку:
«Падкуй яму ножку ў дарожку!»
А бабка, напэўна б, сівенькай
Сваёй галавой паківала:
«Анічога я тут нічагенькі
Не параджу, унучак», – сказала б.
І яшчэ я палац бы адгрохаў –
Фантастычны, з мары і снення;
Вымысляў і маніў бы патроху
І ля мамы шукаў бы збавення,
Калі бацька, заспеўшы ў шкодзе
(Вінаваты ж хлапцы – звадыяшы!),
Узлаваўшыся, крыкнуўшы «годзе»,
Пагражаў мне бярозавай кашай.
Я ж бы думаў сабе: «Не паддамся
Слязам пад дубчынай цопкай...»
Каб цяпер хлапчанём быў... Прынамсі,
Не душа балела б, а попка.

*«Вожык», 1971 г.*

### Прыпеўкі

У каханні ён заграз,
Нібы муха ў патацы.
– Да сямі дзяўчат зараз
Буду, – кажа, – сватацца.

* * *

Мой каханы – трактарыст,
Чалавек з характарам.
Нораў свой – ох, наравіст! –
Пераняў у трактара.

* * *

Закахаўся наш шафёр –
Вочы, вочы карыя!
Плача бедны, як бабёр:
Што ні дзень – аварыя!

* * *

Бабкам кажа поп з амбоны,
Што пасціць павінны ўсе,
А зайдзі ў дом ягоны –
Гускай смажанай нясе.

* * *

Ён пра зорку пра «Венеру»
Мне спявае... я – маўчу,
Бо не веру кавалеру,
Бо праверу палячу.

*«Вожык», 1961 г.*




Аляксандр ПЯТРОЎ.

## Школьныя замалёўкі

### Калектыўная праца



Ўшчувае настаўніца Вову:
«Тваё сачыненне – бы здзек!
Як столькі памылак пісьмовых
Зрабіць мог адзін чалавек?»

Хлапец адказаў хітравата:
«Чаму гэта толькі адзін?
Гадзіну пісалі мы з татам,
І дзед яшчэ восем гадзін...»

### Па-за канкурэнцыяй



Праходзіў конкурс прафмайстэрства ў нас.
Журы прызнала, ды і ўся акруга,
Што лепшы педагог на гэты час –
Шырокая бацькоўская папруга.

## Заява



Фізічна болей-меней я здаровы,
Ды сутыкнуўся з іншаю пагрозаю:
Прашу даць адпачынак тэрмінова –
Згубіць баюся на рабоце розум я!

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*

## АНЕКДОТ

Віншаваць дзяцей з Першым верасня – гэта ўсё роўна, што віншаваць зайцоў з пачаткам сезона палявання.

**Даслаў Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

## Сіла слова

*Гісторыйка*

Сёння мы вывучалі крылатыя выразы. І так мне гэтая тэма спадабалася, што я вырашыў як мага часцей іх ужываць. Тым больш, адной такой фразай можна замяніць цэлы сказ! Да таго ж хацелася здзівіць бацькоў.

– Што ў школе новага? – запыталася дома маці.

– Рыжыкаў двойку па матэматыцы атрымаў, – адказаў я.

– Чаму?

– Дык ён увесь урок бібікі біў і лічыў варон. Словам, уся навука яму ў адно вуха залятала, а праз іншае вылятала.

Маці засмяялася, а я працягнуў:

– А Сямёнаў, як атрымаў «здавальняюча» па літаратуры, кіпеў, нібы вада ў гаршку. Сідараў, якога выклікалі на ўроку гісторыі, стаў белым як папера.

– Вось як, – усміхнулася маці. – Добра, вастраслоў, ідзі на кухню, там цябе чакае абед.

Пасля перакусу, які сёння мне падаўся на адзін зуб, я паўгадзіны абрываў тэлефон лепшаму сябру Ягору. Потым забег да таварыша па лесвічнай пляцоўцы Колькі. З ім мы бітую гадзіну гулялі ў камп'ютарныя гульні. Потым, на ноч гледзячы, я вярнуўся дадому.

– Ты не забыўся, што ў цябе заўтра кантрольная па матэматыцы? – запыталася ў мяне маці.

– Я яе адной левай!

– Але вам задалі шмат, трэба ж рыхтавацца! – не адступала мама.

– Заданне не воўк, у лес не збяжыць, – парыраваў я.

– Але ўжо позна. Калі ты атрымаеш дрэнную адзнаку, то «выдатна» за чвэрць ніяк не выйдзе.

– І тады на выхадных мы ў цырк не пойдзем, – дадаў бацька. – Памятай: я сваіх слоў на вецер не кідаю. А вось зняць стружку, задаць перуноў, паказаць, дзе ракі зімуюць, я магу.

Калі пачуў такое ад бацькі, мяне як ветрам з кухні здзьмула. Я хутка сеў за стол і разгарнуў сшытак па матэматыцы.

Што ні кажы, а сіла слова ў бацькоў велізарная!

**Андрэй ПЯТРЭНКА,**
*г. Рэчыца.*



Аляксандр ШМІДТ.




## Якім прыборам вымяраюць пельмені?

*Жыццёвае*



Гэтая гісторыя адбылася на факультэце фізікі. Студэнты здавалі экзамен. Сярод іх быў і несамавіты Ягор. Ён выцягнуў білет, сеў на апошнюю парту і пачаў перабіраць шпаргалкі. Але патрэбнай так і не знайшоў.

Неўзабаве надышла чарга адказваць. Хутка выкладчык зразумеў, што студэнт «плавае». Каб дапамагчы яму атрымаць станоўчую адзнаку, ён пацікавіўся:

– Скажыце, у чым вымяраецца сіла току?

– У амперах, – адказаў Ягор.

– А якім прыборам гэта робіцца?

– Гэтым, – пачаў узгадваць хлопец. – Ампельметрам.

Выкладчык усміхнуўся.

– Такім прыборам, вы, пэўна, у інтэрнаце вымяраеце пельмені ў каструлі. А вось калі станеце спецыялістам, запомніце: сіла току вымяраецца амперметрам.

Ягору давялося згадзіцца. Экзамен тады ён здаў. А наказ памяркоўнага выкладчыка не забыў нават пасля сканчэння вучэбнай установы.

**Даслаў Андрэй СІДАРЭЙКА,**
*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*




## РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прапануе!

**Анатоль ЗЭКАЎ**

**«Птушыныя арэлі»**

Вы ведаеце, што здарыцца, калі раптам прападзе мяккі знак? А як дзяўчынку Іну ператварыць у Паліну, жадаеце даведацца? А паспаборнічаць у тым, хто болей згадае беларускіх гарадоў, назвы якіх заканчваюцца на «ы», хочаце? Тады новая кніга Анатоля Зэкава «Птушыныя арэлі», якая выйшла сёлета ў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», — для вас! Прачытаўшы яе, вы абавязкова пасябруеце з хлопчыкамі і дзяўчынкамі, звярамі і птушкамі, з якімі адбываюцца самыя неверагодныя прыгоды.

А мы прапануем увазе чытачоў «Вожыка» некалькі твораў з новай кнігі Анатоля Зэкава «Птушыныя арэлі».




*P. S. Гэтае і іншыя выданні «Выдавецкага дома «Звязда» вы можаце набыць у любой з кнігарань ААТ «Белкніга», адрасы якіх шукайце на сайце www.belkniga.by, а таксама ў самім Выдавецкім доме па адрасе: 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.*

*Даведкі па тэлефонах 337-44-04, 271-12-94.*

*Інфармацыю пра наяўнасць кніг у крамах Мінска можна атрымаць па тэлефонах:*

*296-70-72, 292-70-72.*

*Сайт «Выдавецкага дома «Звязда» — www.zviazda.by*

**Анатоль ЗЭКАЎ**

### Ад Іны — да Паліны

З Інаю вучылі алфавіт мы,
А яна баіцца літар.



Бо праз нейкую хвіліну
Іна можа быць не Інай.

Л паставіш перад Інай —
І не Іна ўжо, а Ліна.

А як выйдзе А з-за спіны —
Атрымаецца Аліна.

І Аліна не Аліна,
Бо ўжо з П яна Паліна.

Як дзяўчынак не паблытаць
З дабаўленнем гэтых літар?

### Дзе паставіць варатара?

Мы ў двары ў футбол гулялі,
Па пляцоўцы мяч ганялі.

Ды гульня нам выйшла бокам:
У вароты мы цалялі,
Ну а мяч трапляў у вокны.

Мо паставіць нам пара
Ля акон варатара?

### Як спіць вожык?

Вельмі Кацярыне
Тое знаць няўсцерп:
Вожык спіць на спіне
Ці на жываце?



Як разважыць з толкам,
Дык вядома Каці:
Спіцца на іголках
Хораша наўрад ці.

Разаслаўшы ложак —
Вынік падвядзе:
Безумоўна ж, вожык
Спіць на жываце.



Думкі растрывожыць,
Потым будзе сніць,
Нібы ў хаце вожык
Тупае, не спіць.

### Гарбузікі

Семкі трушчылі гарбузікі —
І набілі імі пузікі.
На градзе ляжаць гарбузікі
І на сонцы грэюць пузікі.

## Небыліца з гузаком

У Мікіты лоб разбіты,
Бо з яліны ўпаў Мікіта.

З самай-самай вышыні
Да зямлі ляцеў тры дні.

Ты, чытач, з мяне смяешся?
Абы-што пішу я ў вершы?

Дык адкуль тады ў Мікіты
Вунь на лбе гузак набіты?

Калі ён не ўпаў з яліны,
Гузака быць не павінна.

А калі там ёсць гузак,
Дык яно было ўсё так.

Калі ж я тут што наблытаў –
Запытай тады ў Мікіты.

Каб быць пэўным, што ўсё так,
Сам памацай той гузак.



**Міхась СЛІВА**

# Фота на памяць

*Гумарэска*

Сваю работу Іван Пятровіч вельмі любіў. Паважаў і калектыў установы, у якой працаваў шмат гадоў. І вось цяпер, калі пайшоў на заслужаны адпачынак, не было нічога дзіўнага ў тым, што часта наведваў сваіх калег, якія, нягледзячы на вялікую занятасць, прыязна сустракалі, удзялялі ўвагу былому таварышу па працы.

Жонка Івана Пятровіча – Вера Паўлаўна – у свой час нярэдка завітвала па розных справах да мужа, калі той яшчэ працаваў. Яму дапамагала маладая, прыгожая дзяўчына Анжэла. Але Вера Паўлаўна была спакойная, бо ў кабінеце сядзела яшчэ Ганна Сямёнаўна, жанчына перадпенсійнага ўзросту, вельмі сур'ёзная. Яна ў вачах Веры Паўлаўны выступала як бы нейкім гарантам таго, што муж не будзе заляцацца да сімпатычнай дзяўчыны. Іншыя ж супрацоўніцы са шматлікіх кабінетаў установы не ўяўлялі асаблівай небяспекі, бо Іван Пятровіч заўсёды быў захоплены любімай справай. Хаця трэба сказаць, што Вера Паўлаўна, перафразуючы вядомую прымаўку, любіла жартаваць: «Не вер каню ў дарозе, а мужу – нават у сваёй хаце...»

У адзін з візітаў Івана Пятровіча ў сваю былую ўстанову таварышы па працы зрабілі яму падарунак – уручылі фота на памяць. На здымку, які быў зроблены на карпаратыўнай вечарынцы ў час праводаў Івана Пятровіча на пенсію, было адлюстравана цэлае суквецце прыгажунь – маладых, прывабных жанчын, якія, бы тыя кветкі, акружылі вінаўніка ўрачыстасці. Фатаграфавалі яўна не пасля першай чаркі ў гонар Івана Пятровіча, бо ўсе, вясёлыя і прыемна ўзбуджаныя, прыязна хіліліся да яго.

Вера Паўлаўна доўга ўглядалася ў здымак, а потым працадзіла праз зубы:

– Слухай, а ці не занадта часта ты бегаеш на сваю былую работу? Займіся лепш нашай дачай, якую ты зусім запусціў!..

*г. Рагачоў.*

## Анекдоты

– Кажуць, наша прамаці Ева здрадзіла ў раі нашаму прабацьку Адаму.

– Напэўна, так яно і было, бо некаторыя вучоныя сцвярджаюць, што чалавек паходзіць ад малпы...

* * *

Ён:

– Чаму ты не адказала на мой ліст?

Яна:

– Па-першае, я яго не чытала. Па-другое, мяне абурыла тое, што там напісана.

* * *

– Каханая, – мармыча муж спрасонку, – выключы тэлевізар, запалі святло і падай мне папіць чаго-небудзь.

– Гэта немагчыма, – сярдзіта адказвае жонка, – мы ў кіно!

* * *

Перад вяселлем: ён кажа, яна слухае.

Пасля вяселля: яна кажа, ён слухае.

Праз год пасля вяселля: абодва кажуць, а суседзі слухаюць.

* * *

Сустрэліся двое сяброў. Адзін з іх раз'юшаны і аніяк не можа супакоіцца.

– Што здарылася? – пытаецца другі.

– Ды пайшоў з жонкай у кіно, і села са мной побач такая прыгажуня!

– Ну, я б гэта назваў шчасцем.

– Чаму?

– А ты ўяві адваротную сітуацыю: прыходзіш у кіно з прыгажуняй, і выпадкова побач з вамі садзіцца твая жонка!

**Даслаў Леў КАЗЛОЎ,**
*г. Мінск.*

4 серыя

Серыял Вожыка

# ПАДМАНАМАНІЯ

## Мода і... якасць















Увечары…
Ваш смартфон, як заказвалі!
Здейснілася! Буду моднай і мне будуць зайздросціць!
Я сумняваюся, што гэта сапраўдны смартфон.
Так, падробка! Акрамя падобнай формы корпуса нічога агульнага з арыгіналам гэты смартфон не мае.
Дык што мне яго не браць?
Справа твая. Калі табе важна толькі абалонка – бяры, але калі смартфон хутка зламаецца, тады ўжо не плач.
Па гарантыі яго абслужыць не змогуць.
Нічога, я ўжо кур'еру адмовіла ў пакупцы.
Воўка дапаможа выбраць смартфон табе на дзень нараджэння. Можа, не такі модны, але якасны.
Нешта рана ад тых лекаў баліць усё мацней. Ніяк не загойваецца.
Пайду замест модных лекаў куплю… якасных!
Так, ўнучка! Добраму тавару ні яркая рэклама, ні зніжкі не патрэбны.

## Хто тут сапраўдны мужчына?

Што толькі ні робяць людзі на п'яную галаву! Адныя лезуць да ўсіх абдымацца і цалавацца, у другіх прачынаецца агрэсія і свярбяць кулакі, трэція становяцца маўклівымі і дэпрэсіўнымі. Але ёсць яшчэ адна група аматараў гарэлкі, вельмі асаблівая. Яны, калі зальюць вочы, любяць публічна агаляцца.

Менавіта да такіх адносіцца 30-гадовы жыхар Гродна, які на чыгуначным вакзале вырашыў наглядна прадэманстраваць, хто тут сапраўдны мужчына. Вось толькі такую паказуху не ацанілі супрацоўнікі міліцыі. Гродзенца затрымалі. Узбуджана крымінальная справа па артыкуле «Хуліганства», эксгібіцыяністу пагражае ў горшым выпадку да трох гадоў зняволення.

Узнікае пытанне: сапраўдны мужчына той, хто вось так паказвае сваю прыналежнасць да моцнай часткі чалавецтва, ці той, хто імкнецца засцерагчы грамадства ад падобных унікумаў?




## Прэмія Дарвіна

Прэмія Дарвіна – асаблівая віртуальная ўзнагарода. Яна штогод прысуджаецца асобам, якія з-за сваёй празмернай дурасці пакінулі жыццё. І яе амаль атрымаў жыхар аднаго з абласных цэнтраў. Вось чаму.

Мужчына на кухні пераліваў з каністры ў пластыкавыя бутэлькі бензін, прычым рабіў ён гэта побач з... уключанай газавай плітой. Не цяжка здагадацца, што гаручая вадкасць імгненна ўспыхнула. Пачаўся пажар.

Супрацоўнікі МНС ужо праз некалькі хвілін прыбылі на месца здарэння, агонь патушылі, а мужчыну з апёкамі першай і другой ступені адвезлі ў рэанімацыйнае аддзяленне.

Мужчыне пашанцавала, і «прэмія» абышла яго бокам. Цяпер, спадзяёмся, ён будзе больш уважлівым у паўсядзённым жыцці.

## Экстрэмальны штраф

Зараз у модзе экстрым. Асабліва сярод моладзі. Зняць жахлівае відэа, ад якога хачацца заплюшчыць вочы, ці сфатаграфавацца ў небяспечным месцы. Хлопцы і дзяўчаты нібы спаборнічаюць, хто з іх больш круты і бясстрашны.

Так адзін падлетак родам з Калінкавічаў на прыпыначным пункце Дудзічы ўскочыў на счэпку хваставой часткі дызеля і праехаў так чатыры кіламетры да наступнай станцыі Юшкі. І зрабіў ён гэта не дзеля эканоміі, а для вострых адчуванняў. Экстрэмальны ўчынак знялі на камеру сведкі. Фота і відэа трапілі ў СМІ і інтэрнэт.

Хлопец выхваляўся сваёй адвагай нядоўга: праз некалькі дзён пасля здарэння да бацькоў завіталі міліцыянеры. Зараз маці і бацьку падлетка прыйдзецца выплаціць штраф у памеры трох базавых велічынь. Як лічыце, добрая цана за такі экстрым?

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.

## Вясёлыя гісторыі ад сур'ёзнага чалавека

*Іван Дзмітрыевіч Гапееў – мой аднакласнік па Ісканскай васьмігодцы Быхаўскага раёна. Колькі яго памятаю, заўсёды быў сур'ёзным чалавекам. І раптам здзівіў – расказаў мне шмат вясёлых гісторый. Імі я, з дазволу апавядальніка, вырашыў падзяліцца з вамі.*




Ладага. Ціхая сонечная раніца выхаднога дня. Рака роўная, як люстэрка, ніводнай хвалькі. Аднак клюе слаба, зрэдку дробязь толькі трапляецца. Генадзь не здаваўся, верыў у сваё рыбацкае шчасце, цярпліва сядзеў на беразе і назіраў за паплаўком. Побач размясціліся і ягоныя сябры.

Цішыня. Усе ў чаканні... І раптам: «Дапамажыце!» І зноў нічога не чутна. Лямант паўтарыўся. Але хто і дзе крычыць, рыбакі не могуць зразумець: нідзе ж нікога не відаць. Толькі пазней Генадзь заўважыў паводдаль мужчыну, які боўтаўся ў вадзе, учапіўшыся за надзіманую падушку. Поруч з ім плавала гумавая лодка. А мужчына крычыць: «Ратуйце-е-е!»

Генадзь супакоіў тапельца: «Ды зараз, не раві. Калі мы ўжо тут, дапаможам. Трымайся». Сталі цягнуць яго, а ён ні туды, ні сюды. Ледзьве выратавалі небараку. Выявілася, што ён прывязаў да нагі якар, а тады задрамаў і плюхнуўся з гумавай лодкі ў ваду.

«Добра, што ты не здагадаўся свой якар да шыі прывязаць, – калі высветлілася, што да чаго, усміхнуўся Генадзь. – Тады мы табе наўрад ці дапамаглі б...»




Валодзя і Сан Саныч курылі «Беламор-канал». І не проста смалілі, а цягалі папяросу за папяросай. У рэшце рэшт і самім надакучыла курэнне, пераглянуліся неяк і цвёрда рашылі кінуць паліць наогул. Раз і назаўсёды. А тут якраз ім на вочы трапіўся у газеце цікавы загаловак: «Кадзірую ад курэння». Тое, што трэба!

Удыхнулі сябры паветра на поўныя грудзі і пайшлі. Пазней прызнаваліся, што сур'ёзна не ставіліся да гэтага кадзіроўшчыка, а вырашылі паспрабаваць дзеля забавы.

На наступны дзень Валодзя і Сан Саныч расказваюць і рагочуць. «Сядзім мы, як дурні, слухаем, што ён там бубніць сабе пад нос. Але амаль нічога не разабраць было. І тут падыходзіць доктар да нас і як гаркне над вухам: «Кідай курыць!» Мы ажно паўскоквалі. А ён паўтарае і глядзіць на нас нейкімі шалёнымі вачыма, рукі растапырыў так, як на карціне Пярова «Паляўнічыя на прывале». І смешна, і жахліва адначасова. Выйшлі мы з Валодзем на вуліцу, дасталі цыгарэты... Запалілі. А дым цягаць больш не хочацца! Вы верыце? Вось такія справы!»

З таго дня яны і сапраўды не кураць.




Калі разваліўся СССР, людзі трапілі ў няпростую сітуацыю. І неяк Андрэй дастаў недзе вельмі танна некалькі скрынак гарэлкі. Упэўніўся сам, што яе піць можна, здароўю не пашкодзіць (калі, вядома ж, ужываць у разумных дозах), і адвёз увесь гэты скарб у вёску да бацькоў.

А там ужо старыя самі разбяруцца, што з ёй рабіць. У сельскай мясцовасці гарэлка – цвёрдая валюта. Бацькі агарод маюць, дровы на зіму патрэбны, а нешта можна і вяскоўцам прадаць. Глядзіш, і лішняя капейка будзе.

Але маці Андрэя хапіла клопату з-за гэтай гарэлкі. Стары сядзеў на лаве, падпільноўваў пакупнікоў, а тыя, выходзячы з хаты з пляшкай, не шкадавалі і для яго кроплі. Так у хуткім часе стары ўцягнуўся, есці не хоча, а толькі б чарку яму выпіць. Тады маці пазваніла сыну, маўляў, прыедзь і забяры гэтую атруту, пакуль бацька зусім не спіўся. Андрэй прыехаў, загружае рэшткі гарэлкі ў багажнік аўтамабіля, а стары сцяной стаў:

– Куды? Назад! Я яшчэ не ўсё прадаў!

**Запісаў Васіль ТКАЧОЎ,**
*г. Гомель.*




Аляксандр ПЯТРОЎ.




## Кавун

Лета адышло з двара,
Восень карагодзіць.
Кавуновая пара
Ўрэшце надыходзіць.

Захацела смакаты
Старая Агася.
Рынак быў за паўвярсты,
Але ж паплялася.

Ляжаць грудай кавуны,
Цешаць усім вочы,
Нібы тыя кабаны,
Толькі што не рохчуць.

Доўга баба выбірала,
Мацала, круціла.
І пазногцем калупала,
І далонню біла.

Каб нутро ажно гуло,
Каб сухі хвасточак,
Каб, дзе кветкаю цвіло,
Ладны быў кружочак.

Вось знайшоўся прыгажун!
Добра выглядае.
Ды і ўмовам той кавун
Ўсім адпавядае.

А вялізны – тыдзень есці.
Толькі як яго данесці?

«Так і быць!» Кавун купіла.
І цягнула, і каціла,
Несла нават на плячы
(Некаму ж дапамагчы!)

Злосна чорта памінала,
Але ўсё ж дашыбавала.
Увагнала нож у мякаць...
Ну, і як тут не заплакаць?

Хоць кавун меў выгляд значны,
Толькі быў зусім нясмачны.
Потым баба ўсім казала:
«Мусіць, доўга выбірала!»

**Раіса ВАСІЛЬЕВА,**
*г. Гомель.*



## Лекі не з аптэкі

Залез мне ў горла стрэптакок,
Мой вораг танзелітны.
Я страціў слых, стаў цяжкім крок,
А голас – не элітным...

Лячылі больш за дзесяць дзён,
Рабілі ўсё, што можна.
Ды стрэптакок быў – як барон,
Як князь яснавяльможны.

Антыбіётыкамі гнаў
Ягоны спрыт сабачы.
Урэшце – доктар так сказаў –
Паехаў я на дачу.

Глядзеў на вуллі раніцой
І слухаў, як гудзелі.
Ды раптам – пчолак цэлы рой,
Ціхутка падляцелі.

На горла селі без размоў,
Бы там знайшлі заразу.
Як ушчыкнулі – будзь здароў!
Напэўна, тры адразу.

Імгненна праясніўся зрок,
Адклала нос і вушы.
Забыўся я на стрэптакок –
Аж зацягнуў «Кацюшу».

У садзе радасна спяваў –
Залівіста, са смакам.
І дактарам падзякі слаў,
І пчолкам – шчыры дзякуй!

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*

## Як у казцы...






## Сяброўства

*Байка*

Ішло дадому Парася,
Бруд парыўшы там ды сям.
А насустрач, да вады,
Гусак валокся малады.
— Сябраваць давай, сусед! —
Парася гукнула ўслед.
— Сябраваць? Я толькі «за»,
Сам даўно табе казаў.
— Дык у лес пайшлі! Дуброва
Вабіць пахам жалудовым.
— Лепш падымемся да хмараў,
Абляцім абшар у пары.
— Што з тых хмараў! Ёсць балота,
Пакачаемся ў ахвоту.
— Не, на рэчку лепш махнём:
Рыба, ракі — во гульнём!
— Не сяброўства гэта — ліха, —
Парася сказала ціха.
— Маеш лыч, я маю дзюбу —
Век табе не буду любы.
***
Не таварыш Гусак Парасяці,
Бо не маюць чым разам заняцца.



## Мост

З дурноты нехта ці са злосці
Дзве дошкі вылупіў у мосце.
І прызвычаіўся народ
Хадзіць з тых пор праз рэчку
ўброд.
А дошкі тыя дзень які
Ляжаць — тырчаць адно цвікі.
Але паўтыдня дождж лупцуе —
Прайсці няма як рэчку тую.
Бліжэйшы мост вярсты за тры —
Хоць з планаў справы ўсе сатры.
Нямілы стаў вяскоўцам свет,
Бягуць са скаргай ў сельсавет.
Маўляў, адужаць як раку,
Бо школа, сад — на тым баку!
Трэба прыгнаць пад'ёмны кран,
Каб меў наш мост належны стан.
Звярнуцца варта і ў мінбуд,
А не — то пойдзе скарга ў суд!
Ды трэба ж здарыцца такому:
Вяртаўся дзед праз мост дадому.
З бядою справіўся дзядок,
Узяўшы ў рукі малаток.



## Графік

Локшыну знаёмы Толя
Жонцы вешае Аўдолі:
— Графік церпіць перамены,
Сёння мне ў начную змену.
А прыгожым цёплым ранкам
Шпацыруе ад каханкі.
Нос у нос у сенцах — з Колем:
Збіўся графік і ў Аўдолі!

**Уладзімір ГАЙДУК,**
*г. Навагрудак.*




## Неабгрунтаваная трывожнасць

*Усмешка*

У Марылі з'явілася неабгрунтаваная трывожнасць. Звярнулася яна да ўрача, той выпісаў дарагія таблеткі. Прызначыў штотыднёвыя кансультацыі, кожная каштуе па 35 рублёў беларускімі. Цяпер Марыля смяецца, што трывожнасць з'явілася з іншай нагоды: ці хопіць грошай?

**Даслала Алена БАСІКІРСКАЯ,**
*г. Міёры.*







Алег ПАПОЎ х 4.

## Філалагічныя замалёўкі



Більярдны шар пралятае праз галаву чытача.

У нядзелю пахаладае і дождж.

Будучыня нашай бібліятэкі – гэта дзеці.

Дзяўчына сярэдняй камплектацыі.

Наладзілі добры гандаль аўтакрамамі.

Прадаць выгадаванае мяса.

На Дошцы гонару – аператар па абслугоўванні цёлак.

**Уважліва чытаў перыёдыку**
**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ,**
*г. Мінск.*



Алег КАРПОВІЧ.

## Запіскі з журналісцкага нататніка



Калега піша пра адзін дзень сельсавета. У такіх матэрыялах звычайна падаюцца мясцовыя праблемы і іх вырашэнне. «Як назваць? Можа, «Прымералі жаданае з магчымым?» – раіцца. «Прымералі жаданае з магчымым: навырост», – падказваю я, і мы смяёмся разам.

* * *

«Учора з'ела чатырнаццаць дранікаў», – сказала неяк за чаяваннем наша бухгалтарка.

Я хацела «падкалоць», што замнога, але думаю – не буду. Пэўна ж, маленькія дранікі былі. І тут яна дадае: «І адзін маленькі!»

* * *

Тэлефаную спеваку Аляксандру Саладуху дамовіцца наконт інтэрв'ю і прадстаўляюся – «Міёрскія навіны». Ён у адказ: «А... міёрскія... А мне пачулася нью-ёркскія». Вось так яно бывае!

* * *

Апублікавалі інтэрв'ю з Аляксандрам Саладухам. Ён тэлефануе і пытаецца: ці ў ружовым касцюме на фота? Мы кажам, што газета чорна-белая. І ўсё роўна ўдакладняе, ці ў ружовым. Такі дапытлівы наш айчынны спявак!

* * *

Калега глыбока ўздыхае. «Трэба пераключыцца, – кажа. – Толькі што займаўся рыбнай лоўляй, а цяпер – жывёлагадоўляй»... Такая праца ў журналіста!

**Алена БАСІКІРСКАЯ,**
*г. Міёры.*




*Іранеска*

Не ведаю, як у іншых сем'ях адбываецца, а ў маёй жоначкі любая справа ў руках гарыць. Не тое, што яечня на патэльні падгарае, проста ўсё мая Іначка робіць хутка і добра. Гатуе – пальчыкі абліжаш. Пра нашу яечню, такую смачную, нават суседзі гавораць. Адным словам, пашанцавала мне з гаспадыняй!

Як паедзем мы з Іначкай на дачу, пачнём палоць, ад пустазелля пазбаўляцца, дык я адну градку прайду, а жоначка за гэты ж час – дзве. І ніводнай травінкі не знойдзеш.

А як яна валодае пыласосам! Вы б бачылі. Пройдзе з ім па кватэры – пылінкі не застанецца. Я рэдка пыласос у рукі бяру, і ў мяне так не атрымліваецца. Упэўнены, што Іначцы з яе спрытам можна і трактар смела даверыць, яна і ім кіраваць здолее.

Цяпер жоначка мая і да стрыжкі валасоў дайшла. Узяла ды пастрыгла мяне. І тут зноў на вышыні аказалася. На працы кажуць, я пасля гэтай стрыжкі на маладога Алена Дэлона стаў падобны. Прыемна.

Але не ва ўсіх справах мая Іначка ў перадавіках ходзіць. Ёсць, дзе і я на першым месцы. Вось напячэ яна дранікаў, сядзем мы за стол і пачынаем есці. Тут я, як кажуць, на кані. Гаспадыня мая не паспее ўправіцца з адным, а я ўжо два праглыну. Блінцы такія смачныя, што, здаецца, разам з імі ў страўнік можна і язык адправіць.

Наогул, я за сваёй Інусяй як за каменнай сцяной. Ды не, мо нават яшчэ і больш моцнай – жалезабетоннай. Шчаслівы я чалавек. Усім мужчынам жадаю мець такіх жонак, як мая Іначка!

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Шчаслівым называецца той шлюб, у якім адна палова храпе, а другая не чуе.

*Дон-Амінада, рускі пісьменнік*

Мужчыны, якія гавораць дрэнна пра жанчын, звычайна маюць на ўвазе толькі адну.

*Рэмі дэ Гурмон, французскі пісьменнік і тэарэтык літаратуры*

Жонка суцяшае мужа ў няшчасцях, якіх ніколі не будзе ў халасцяка.

*Невядомы аўтар*

Шлюб – і не рай, і не пекла, гэта проста чысцілішча.

*Аўраам Лінкальн, амерыканскі палітычны дзеяч, прэзідэнт ЗША*

Ажаніцца – гэта значыць напалову скараціць свае правы і ўдвая павялічыць абавязкі.

*Артур Шапенгаўэр, нямецкі філосаф-ідэаліст*

Каханне часта адбірае розум у таго, хто яго мае, і дае тым, у каго яго няма.

*Дэні Дзідро, французскі філосаф і пісьменнік*

Маладыя жонкі старых мужоў звычайна яшчэ пры жыцці мужа думаюць пра тое, хто будзе выціраць ім слёзы.

*Карла Гальдоні, італьянскі драматург*

Ідэальны муж – гэта мужчына, які лічыць, што ў яго ідэальная жонка.

*Бернард Шоу, англійскі драматург і дзяржаўны дзеяч*

# НЕ БОЙСЯ ДАРОГІ!

*Крыжаванка*




**Па гарызанталі:**

**3.** «Чалавека робяць шчаслівым тры рэчы: ..., цікавая работа і магчымасць падарожнічаць» *(афарызм І. Буніна)*. **9.** Любімае месца адпачынку аўтамабілістаў. **10.** У чужой старонцы не так свецiць ... *(беларуская прыказка)*. **11.** Прадмет, які засцерагае ад няшчасцяў, і які звычайна бяруць з сабою ў падарожжа аматары павандраваць. **14.** Сакрэтны набор лічбаў, якія адчыняюць дзверы ў пад'езд з дамафонам. **15.** «Толькі пра дзве рэчы мы будзем шкадаваць перад смерцю: што ... кахалі і ... падарожнічалі» *(афарызм М. Твена)*. **16.** Лік, які раўняецца прыкладна 3,14. **17.** Мноства чаго-небудзь. **18.** У ісціны ... дарога, а ў брахні — многа *(руская прыказка)*. **19.** Майстар сваёй справы. **21.** Ідзі ў родны ..., там і пад елкаю рай *(беларуская прыказка)*. **22.** Каса любіць сытага, а ... — галоднага *(беларуская прыказка)*. **27.** «Спартыўны ... — лепшы спосаб за кароткі час збавіцца ад хандры і моцнага здароўя» *(афарызм невядомага аўтара)*. **29.** Казацкі афіцэрскі чын у царскай арміі. **30.** «Іншыя смяюцца, каб паказаць свае прыгожыя зубы, і плачуць, каб паказаць сваё добрае ... » *(афарызм Ж. Ру)*. **31.** «Ціхі вечар; знікнула ..., \\ Весялей струіцца між чарота \\ Рэчка, што ўцякае у ставок *(З верша М. Багдановіча*).

**Па вертыкалі:**

**1.** У дарозе і ... цяжкая *(беларуская прыказка)*. **2.** «Жыццё ў ... падарожжа — гэта мара ў чыстым выглядзе» *(афарызм А. Крысці)*. **4.** Альбо ... возіць дровы, альбо сама ідзе на дровы *(руская прыказка)*. **5.** Багіня лёгкага ветрыку ў старажытнагрэчаскай міфалогіі. **6.** Не бойся дарогі, былі б здаровыя ... *(руская прыказка)*. **7.** І каню хоць раз на ... патрэбны адпачынак *(руская прыказка)*. **8.** Жыхарка адной з краін у Паўднёва-Усходняй Еўропе. **12.** Без працы і ... не салодкі *(руская прыказка)*. **13.** «Падарожжы зберагаюць ...» *(афарызм М. Пржавальскага)*. **17.** Прыбор, якім турысты вымяраюць пройдзены шлях. **20.** «Самы верны ... даведацца, падабаецца табе чалавек ці не — гэта паехаць з ім у падарожжа» *(афарызм М. Твэна)*. **23.** Бязлесная роўная прастора ці слова «крок» па-англійску. **24.** Ад вялікага да смешнага адзін ... *(французская прыказка)*. **25.** Газ, галоўная састаўная частка паветра. **26.** Воўка ў плуг, а ён — у ... *(беларуская прыказка)*. **28.** Парадаксальная ... рукзак! У сонечны дзень спіна мокрая, а ў лівень — сухая *(турыстычны жарт)*.

**Адказы:**

**Па гарызанталі:**
**3.** Каханне. **9.** Гараж. **10.** Сонца. **11.** Абярэг. **14.** Код. **15.** Мала. **16.** Пі. **17.** Куча. **18.** Адна. **19.** Ас. **21.** Край. **22.** Цэп. **27.** Турызм. **29.** Есаул. **30.** Сэрца. **31.** Слякота.

**Па вертыкалі:**
**1.** Іголка. **2.** Час. **4.** Арба. **5.** Аўра. **6.** Ногі. **7.** Год. **8.** Балгарка. **12.** Адпачынак. **13.** Маладосць. **17.** Крокамер. **20.** Спосаб. **23.** Стэп. **24.** Крок. **25.** Азот. **26.** Луг. **28.** Рэч.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

**Нічыпар ШЭРАНЬКІ**

## УКРОП І МОРКВА

*Байка*



На агародзе з важнай пыхай соп,
Высока чуб задзёршы свой, Укроп.
Пацвельваўся ён з Морквы дзень пры дні:
— Ні таўшчыні ў цябе, ні вышыні!
А кволая, а ніцая якая!
І што цябе, няўдаліца, чакае?
Каб мог хадзіць, даўно, напэўна, сам
Аднёс цябе б на двор скарміць трусам.
Ды восенню звярэдлівы Укроп
Ад зайздрасці яшчэ мацней засоп:
Аж ззяла Морква ў цёткі пад рукой,
Век жыў — не бачыў чырвані такой!
***
Пакуль не ўзважыў ты свой ураджай,
Суседаў поспех лепш не заніжай.

*г. Мінск.*






Віктар КОХАН.




Аляксандр ПЯТРОЎ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Я дзяўчына-жартаўніца,
Не па мне самота, злосць.
Люблю танчыць, весяліцца,
І для ўсіх – жаданы госць.



* * *

Маю я прыпевак, сваццяя,
У запасе з паўмяха.
Смела гэтае багацце
Аддала б за жаніха.



* * *

Я дзяўчына – заглядзецца!
І фігура не трасецца.
На спадніцы стужачка,
А сама – як ружачка!

* * *

Што ты ля мяне гарцуеш?
Лепш купляй хутчэй «Пежо».
Задарма не пацалую,
Бо навучаная ўжо.




* * *

У таго няма настрою,
Хто з кішэняю пустою.
Як мільён туды пакласці –
Аж засвеціцца ад шчасця!




* * *

У мяне ёсць на прыкмеце
Ясь, Кузьма, Кірыл ды Пеця.
Ласыя ўсе да віна –
Вось таму і сплю адна.



* * *

Ох, ох, далібог,
Як не пахваліцца:
Жаніхоў я маю трох,
А чацвёрты сніцца.

* * *

Мілы так прыгожа кажа,
Бы карункі з шоўку вяжа.
А я слухаць байкі мушу,
Бо на тое маю вушы.



* * *

У адной жанчыны-кралі
Грошы ўсе на рынку ўкралі.
Муж злуецца і дзяўбе:
«Хай сцягнулі б лепш цябе!»



* * *

Да чаго ж люблю вусы
І зайздросныя насы!
Як убачу доўгі нос –
Па спіне бяжыць мароз.



* * *

Трэба Васілю спыніцца –
Хоча сёмы раз жаніцца.
Апроч нас з табой, кума,
Болей брацьь каго няма.



**Праспявала**
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




## А хто ж тады есць?

Згадзіцеся, што ў жанчын цяпер размовы, так сказаць, сезонныя: пра ўраджай агуркоў ды памідораў, закаткі-закруткі, новыя рэцэпты. Куды ні пайдзі – усюды пра гэта ды пра гэта.

Адна кабета выхвалялася перад другой:

– Агуркоў сёлета – заваліся, ужо не ведаю, куды іх дзець. І насаліла, і закатала больш за паўсотню трохлітровікаў. А цяпер салаты раблю вельмі смачныя. Ведаеш такія рэцэпты – з таматнай пастай, з гарчыцай?

І пачала дыктаваць. Суразмоўца слухала-слухала, а пасля толькі рукой махнула:

– Усё роўна не запомніла, лепш табе патэлефаную, калі спатрэбіцца. А смачны салат, спрабавала?

– Лепшага і не трэба, – запэўніла гаспадарлівая кабета. – У нас толькі яго і елі летась. Вось і стараюся, ужо нават слоікаў не хапае, усе заняла.

– Ну, вядома, у цябе дзеці, унукі, – сказала яе прыяцелька. – А мы ўдваіх, колькі тых агуркоў трэба... Не толькі ж імі харчавацца.

– Дык і мы іх не ядзім! – затараторыла «гаспадыня». – Дзеці ў той бок не глядзяць. Нашто ім тыя агуркі? Ды і мы з мужам не вельмі...

Так і хацелася спытаць: навошта тады паўсотні і больш слоікаў нарыхтовак, хто іх будзе есці? Але, урэшце, не мая гэта справа. Нездарма кажуць, што жанчына – істота непрадказальная і супярэчлівая. Такія, мусіць, мы ўсе. А яшчэ трапляюцца і занадта «гаспадарлівыя»...



## Мае думкі, мае скакуны…

У Іванавіча, знаёмага пенсіянера, цяпер галоўны клопат – будаўніцтва дома. Не, не сам ён на старасці гадоў узяўся за ўзвядзенне катэджа, а зяць – чалавек гаспадарлівы і працавіты. Будоўлю распачалі сур'ёзную, таму турбот хапае. І сродкі ўсе ідуць на яе, і фізічная сіла. Не толькі сваякоў, але і сяброў.

Неяк давялося ўбачыцца з Іванавічам. Адразу загаварыў пра будучы дом, маўляў, справа ідзе да завяршэння.

– Да зімы хочуць зрабіць улазіны, – пахваліўся пенсіянер. – Закончыць зяць спальню ды кухню, а астатняе паціху пазней. І для нас з жонкай плануе пакой. Хацеў два, ды навошта нам? І ў адным месца хопіць. Сваю хату прадам, а грошы, магчыма, падзялю паміж дзецьмі. Не, пэўна, усё аддам дачцэ, у яе ж будзем жыць. А яна тады машыну добрую купіць, будуць і нас вазіць. Мала куды спатрэбіцца – да доктара ці ў краму. Цяпер усё аўтобусамі, а так на сваёй машыне. Няхай зайздросцяць суседзі. Толькі вось, дзе яе ставіць. Няма гаража, баюся, пачне ржавець...

Іванавіч гаварыў і гаварыў, а я міжволі ўзгадала вельмі падобнага да яго вяскоўца, які зімой, у траскучыя маразы, бедаваў, дзе яму дзець яблыкі будучага ўраджаю.

**Даслала Ірына БУДЗЬКО,**
*г. Вілейка.*



## Здача

Мужчына купляе на рынку яблыкі. Прадаўшчыца, маладая прыгожая дзяўчына, дала яму здачу з вялікай купюры і занялася наступным пакупніком. Пералічыўшы грошы, мужчына вярнуўся да прылаўка і кажа:

– Прабачце, калі ласка, але вы памыліліся. Яблыкі каштавалі 10 рублёў, а вы далі мне...

– Як вам не сорамна, я ніколі нікога не падманвала! – абурылася прадаўшчыца.

– Ды не ў гэтым справа. Пералічыце грошы, – мужчына працягнуў ёй кіпу паперак.

– Ну і нахабства! Нічога я пералічваць не буду, не перашкаджайце мне гандляваць!

– І ўсё ж праверце, – не супакойваўся мужчына.

Дзяўчына, не стрымліваючы злосці, схапіла грошы. Пералічыла. Выявілася, што яна аддала пакупніку лішнія дваццаць рублёў.

– Вой, і як жа так атрымалася... – дзяўчына імгненна ператварылася з хімеры ў пакорлівую авечку. – Пэўна, пераблытала купюры. Вы прабачце, давайце, я вам яшчэ яблычак пакладу. Дзякуй вам, прыходзьце зноў!

**Даслала Зоя НАВАЕНКА,**
*Глыбоцкі раён,*
*г. п. Падсвілле.*




**Міхась МІРАНОВІЧ**

### Жыццё

Бавіцца Дзяцінства,
Нешта ўсё выгадвае,
І на гэта Сталасць
Пазірае з кпінамі.
Маладосць пра Старасць
Нават і не згадвае,
Старасць у Юнацтва
Лезе з успамінамі.




### Калі забаліць галава...

Як галава ў вас зрэдку
Забаліць –
Вы супакойцеся
І утаймуйце злосць.
Няхай такая думка
Весяліць,
Што галава у вас,
Прынамсі, ёсць!



### Хопіць сіл

Бяжыць паціху ўніз
Жыцця дарога,
І адпачыць дзесь з краю
Ёсць жаданне...
Кахання для мяне
Ужо замнога,
Ды хопіць сіл яшчэ
На заляцанне.



### Язык і думка

Так з языком
Было спрадвеку:
Ён, як мы можам
Меркаваць,
На тое ёсць
У чалавека,
Каб думкі ўласныя
Хаваць.



### Хваробы для лекаў

Ідзе Міхась
Каля аптэкі
І разабрацца
Робіць спробу:
– Усюды лекі,
Лекі, лекі!..
Няўжо для кожных
Ёсць хвароба?..



### Межы

Шкада,
Але прызнаць належыць,
Што розум недзе
Мае межы.
Ды толькі
Самае паганае,
Што глупства –
Неабмежаванае!



*г. Віцебск.*

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
16+
№ 9 (1548), 2017 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.
Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ПІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.
Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.
Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.
Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ
Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ
Падпісана да друку 05.09.2017. Фармат 60x84 $^1/_8$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,5. Тыраж 844 экз. Заказ .
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.
Матэрыялы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца, прымаюцца толькі ў электронным выглядзе.
Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык».
Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.





Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.